ТЕЛЕПРОГРАММА НА НЕДЕЛЮ

№ 107 (1670)

Субота, 14 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +18...+20, увечары — дождж, уначы — +8...+10; у Брэсце ўдзень — +20...+22, уначы — +12...+14; у Гродне ўдзень — +19...+21, уначы — +9...+11; у Віцебску ўдзень — +13...+15, уначы — +9...+11, дождж на працягу сутак; у Гомелі ўдзень — +15...+17, уначы — +11...+13; у Магілёве ўдзень — +13...+15, уначы — +9...+11, дождж на працягу сутак.

www.meteo.by



СУД

## Леанід Калугін — на волі



*Леанід Калугін прымае віншаванні.*

**Фота IREX/ProMedia.**

12 чэрвеня закончыўся судовы працэс па справе былога прэзідэнта ЗАТ "Атлант" Леаніда Калугіна. Суд Цэнтральнага раёна Мінска пад старшынствам суддзі Е.Ільінай пастанавіў спыніць вытворчасць па крымінальнай справе Л.Калугіна на падставе закона "Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы", які ўступіў у сілу 17 ліпеня 2002 года, і вызваліць Л.Калугіна ад крымінальнай адказнасці.

Як зазначыў у інтэрв'ю БелаПАН адвакат Калугіна Аляксандр Пыльчанка, пытанне абскарджання пастановы суда будзе вырашацца самім Калугіным. "Мы чакалі, што прысуд будзе апраўдальным", — зазначыў адвакат.

Нагадаем, што Л.Калугін абвінавачваўся ва ўчыненні злачынстваў па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі — 424, частка 2 (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, учыненыя службовай асобай, якія мелі вынікам цяжкія наступствы); 225 (невяртанне з-за мяжы замежнай валюты) і 233, частка 2 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць). Л.Калугіну пагражала пазбаўленне волі тэрмінам да 8 гадоў.

Незадоўга да завяршэння крымінальнага працэсу прадстаўнік дзяржаўнага абвінавачання, выступаючы ў дыскусіях, прапанаваў прымяніць амністыю ў дачыненні да Калугіна па двух з трох артыкулаў, па якіх абвінавачваўся былы прэзідэнт ЗАТ "Атлант".

Згодна з абвінавачаннем, злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі праявілася ў несвоечасовым продажы валюты. Штрафныя санкцыі за несвоечасовы продаж таксама аднесены да нанесенага ўрону. Як "незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць" кваліфікаваны ўдзел генеральнага дырэктара "Атланта" ў будаўніцтве царквы. Для будаўніцтва храма прадпрыемства прадало 196 грамаў тэхнічнага сусальнага золата, а таксама срэбра.

***Даведка БелаПАН.** Леанід Калугін нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Галовічы Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. На Мінскім заводзе халадзільнікаў — з 1966 года; прайшоў працоўны шлях ад слесара да дырэктара. У 1993 годзе стаў прэзідэнтам ЗАТ "Атлант", у склад якога ўваходзіць Мінскі завод халадзільнікаў. У 1996—2000 гадах быў членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі. У 2001 годзе вылучаў сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

**Аляксей ШЭІН, БелаПАН.**

ПУЛЬС

## Беларусь попала в очередной «черный список»

Комитет по соблюдению норм и стандартов Международной организации труда (МОТ), заседание которого состоялось в Женеве 12 июня, принял решение включить Беларусь в специальный параграф, своеобразный "черный список" стран — "злостных" нарушителей прав профсоюзов.

Дискуссия по белорусскому вопросу, вопреки установленным нормам, длилась более двух часов. Несмотря на выступления министра труда и социальной защиты Беларуси Антонины Моровой и председателя Федерации профсоюзов Беларуси Леонида Козика о том, что у нас с правами профсоюзов все в порядке, участники заседания комитета: представители правительств, работодателей и объединений трудящихся различных стран мира — резко осудили политику белорусских властей, направленную против демократического профсоюзного движения. В поддержку Беларуси выступила только Куба.

Наша страна уже второй раз попадает в специальный параграф МОТ. Впервые такое решение было принято в 2001 году после детального изучения жалобы о нарушении прав трудящихся на объединение (дело №2090). Жалобу подписали профсоюзы работников автосельхозмаша, радиоэлектронной промышленности, агропрома, Белорусского конгресса демпрофсоюзов и другие. Комитет по свободе ассоциаций МОТ неоднократно выносил рекомендации белорусскому правительству и предлагал помощь в устранении имеющихся нарушений. К сожалению, практически ни одна из этих рекомендаций не была выполнена в полной мере. Более того, в последние годы политика властей по отношению к профсоюзам стала еще более агрессивной.

## Канфіскавалі яшчэ 3500 асобнікаў «Предпринимательской газеты» з матэрыяламі журналістаў «БДГ»

Канфіскацыя яшчэ 3500 асобнікаў "Предпринимательской газеты" з матэрыяламі журналістаў рэдакцыі "Белорусской деловой газеты" адбылася вечарам на тэрыторыі аддзялення сувязі Рэспубліканскага аб'яднання "Белпошта" №60.

Нагадаем, што ў гэты ж дзень супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі 1600 асобнікаў газеты з аддзела прадаж унітарнага прадпрыемства "Марат".

**Аляксей ШЭІН.**

## Прадавалі 12 страляючых аўтаручак

Пры спробе збыту 12 самаробных страляючых аўтаручак супрацоўнікі Віцебскага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю затрымалі трох жыхароў абласнога цэнтра.

Самаробныя прыстасаванні зроблены ў выглядзе аўтаручак і прызначаны для стральбы малакалібернымі патронамі. "Гандляры", адзін з якіх раней адседжваў тэрмін, спрабавалі рэалізаваць іх па цане 25—30 долараў за адну штуку. Акрамя таго, у аднаго з затрыманых пры вобыску ў кватэры было знойдзена і канфіскавана каля 30 патронаў рознага калібру для аўтаматычнай зброі.

Як устанавілі супрацоўнікі ўпраўлення, канфіскаваныя прыстасаванні зроблены ў прамысловых умовах на адным з віцебскіх прадпрыемстваў. Падчас следства міліцыянерам давядзецца ўстанавіць месца вырабу і кола асоб, якія маюць дачыненне да вырабу страляючых аўтаручак.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

## Хочаш жыць? Аддай 5000 долараў ЗША

Следчым аддзелам Следчага камітэта МУС па Першамайскім раёне беларускай сталіцы ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да трох раней судзімых грамадзян. Двое — жыхары Мінскага раёна: 29-гадовы адміністратар і 39-гадовы менеджэр аднаго з вытворчых аб'яднанняў. Трэці — 29-гадовы мінчанін, вадзіцель.

У 14 гадзін ля аднаго са сталічных бараў, прадставіўшыся супрацоўнікамі міліцыі, яны гвалтоўна пасадзілі ў аўтамашыну 20-гадовага аўтаслесара, мясцовага жыхара, і па ходу руху аўтамабіля пад пагрозай забойства і з прымяненнем насілля патрабавалі перадачы ім 5000 долараў ЗША.

Ля дома №155 па праспекце Ф.Скарыны аўтамашына са злачынцамі і выкрадзеным аўтаслесарам была спынена супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Першамайскага РУУС горада Мінска.

Выкрадальнікі затрыманы. Праводзіцца расследаванне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## «Может быть, вы, святой отец, партийный?»

*Наша страна продолжает идти своим путем. Позавчера Республика Беларусь подписала соглашение с Белорусским экзархатом (говоря по-светски — региональным отделением) Русской православной церкви. Отныне РПЦ у нас будет, по Оруэллу, еще "более равна", чем остальные конфессии. От государства документ подписал премьер Новицкий, с другой стороны — митрополит Филарет.*

**Ничего противозаконного в подобном акте вроде бы нет. Напротив, это своего рода рамочное соглашение, как сообщил пресс-секретарь премьер-министра Николай Толстик**, декларирует самые благие намерения в важных сферах общественной жизни. Держава и православная церковь выражают желание плечом к плечу трудиться на ниве нравственного воспитания, образования, культуры, сохранения исторического наследия и т.п. В развитие этой декларации, судя по всему, будут разрабатываться более конкретные программы по каждому из обозначенных направлений сотрудничества.

Вопрос, однако, уже в том, что детали документа, так или иначе затрагивающего интересы всего народа, автор этих строк узнал только благодаря личному общению с пресс-секретарем. Вообще же соглашение готовилось в условиях повышенной секретности. И увидит ли его широкая публика — трудно сказать. А потому априори часть общественности бьет в колокола, говорит об ущемлении других конфессий и обидно называет православных церковников "комиссарами в рясах", предполагая их грядущую экспансию в школу, армию и другие учреждения, по идее вполне светского характера. По крайней мере, руководство страны и Белорусского экзархата не утрудило себя тем, чтобы гласностью развеять такие вот опасения.

Между тем для тревоги есть серьезные основания. Начало искусственному возвышению православной церкви над другими положил принятый в прошлом году закон "О свободе вероисповеданий и религиозных организациях", подчеркнул в беседе со мной депутат Палаты представителей **Иван Пашкевич**. Он — один из немногих парламентариев, кто активно — но, увы, безрезультатно — выступал против тех положений закона, что вызвали протест у последователей ряда вероучений, заговоривших о дискриминации. "У Беларуси — вековые традиции многоконфессиональности и толерантности, — говорит Пашкевич. — Зачем же вносить раскол, поднимая на щит одну церковь?".

Впрочем, сам же он считает вопрос риторическим. Иван Пашкевич напомнил о встрече Александра Лукашенко с синодом Белорусского экзархата в декабре прошлого года. Тогда державный лидер четко дал понять, что рассчитывает с помощью церкви поднять идеологию. Да что там далеко ходить: в красном углу официального сайта президента Республики Беларусь крупно выделены его слова: **"Я никак не могу душою воспринять и понять, что у нас церковь как-то отделена от государства".** На особых задачах "ведущей конфессии" он заострил внимание и в апрельском послании парламенту. В конце концов, именно глава светской власти стал вдохновителем того самого соглашения, о котором мы ведем речь. Почему руководящая верхушка страны ратует за такой тесный альянс с экзархатом? Подсказкой тут может стать откровение Лукашенко на известном идеологическом семинаре в марте: **"Раньше мы боролись против церкви, сегодня церковь патриотично настроена. Она нас поддерживает. Давайте и мы в этом плане будем поддерживать".**

Итак, именно в речах главы государства тесно сплелись понятия "православие" и "идеология". Вот откуда растут ноги у метафоры про "комиссаров в рясах", которая так задевает святых отцов. Хотят того или нет духовные пастыри, но светское руководство не скрывает, что намерено использовать их как проповедников своего курса. А говоря еще прямее — для удержания власти. Таково ли призвание слуг господа?

Впрочем, они тоже наверняка рассчитывают на преференции. Альянс с властью — это ведь верные льготы. "В то время как миссия церкви — заботиться о душе, верхушка православия, отодвинув эту библейскую заповедь, стремится стать поближе к руководству страны", — с горечью констатирует Иван Пашкевич. По его мнению, такая политика властей и православных иерархов таит угрозу стабильности нашего общества. Ведь если одну из конфессий определяют как "первый сорт", то другие автоматически становятся второсортными. Там, где есть любимчики, логично появляются и гонимые. Не грех бы иерархам, а равно и государственным мужам, перечитать Евангелие от Луки, где из уст Иисуса звучит предостережение: ***"...всякое царство, разделившееся само в себе, опустеет, и дом, разделившийся сам в себе, падет".*** Впрочем, вполне вероятно, что нашим державным лидерам ближе принцип римских императоров "Разделяй и властвуй!". Только принцип это языческий, господа хорошие.

К слову, человек знающий в два счета опровергнет доводы поборников соглашения: мол, и за рубежом традиционные церкви в фаворе, и вообще православных у нас то ли 80, то ли 85 процентов. Так вот, за рубежом эти церкви в фаворе веками, там не устраивали в храмах складов, как это делали большевики. Теперь же у нас, как водится, стали перегибать в другую сторону. И атеистов уже как-то вообще не берут в расчет (хотя это почтенное мировоззрение, не менее древнее, чем религия, только вот опошленное большевизмом). Ведь это и от имени неверующих, не спрашивая согласия, высокие чиновники подписывают договор с церковью! Но каждый ли родитель, скажем, согласен, чтобы его ребенка заставляли зубрить еще и закон божий?

Кстати, по данным представителя Комитета по делам религий и национальностей **Александра Калинова**, в Беларуси, согласно социологическим исследованиям только около половины граждан считают себя верующими. **Из них** 80% составляют православные, 14% — католики, 2% — протестанты и еще 4% приходится на другие религии. Чувствуете нюанс? Православные действительно составляют большинство **среди верующих**, но в обществе их доля вдвое меньше — только **процентов 40**. Да и там, положа руку на сердце, изрядно таких, кто некогда клеймил "опиум для народа" на партийных собраниях.

Кстати, похоже, что именно эта категория ныне особенно усердствует по части возвышения православной церкви. Причем менталитет не изменился: батюшек рассматривают как кадровый резерв политинформаторов и агитаторов. И эту новую политику вчерашние борцы с "опиумом" насаждают так же топорно, как некогда политику партии.

Так что в нашем царстве-государстве уже вовсе не смешно становится перечитывать Ильфа и Петрова. Помните, как Киса Воробьянинов язвительно вопрошал отца Федора: "Может быть, вы, святой отец, партийный?".

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**
*("Белорусские новости".)*
**Фото IREX/ProMedia.**

## Ці пойдзе ў адстаўку Э.Малафееў?

*У трэнерскім штабе Нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе абвяргаюць чуткі аб магчымай адстаўцы Эдуарда Малафеева з пасады галоўнага трэнера пасля разгромнага паражэння 11 чэрвеня ў Інсбруку ад каманды Аўстрыі — 0:5 у матчы адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы 2004 года.*

Як паведаміў беларускім журналістам пасля заканчэння сустрэчы трэнер зборнай Валерый Стральцоў, які выйшаў да прэсы замест Э.Малафеева, "такой размовы пакуль не было, цяпер гэта размова не да месца". Ніякіх заяў ад Э.Малафеева або прадстаўнікоў Беларускай федэрацыі футбола не было ні 11-га, ні 12 чэрвеня. Паводле звестак БелаПАН, не выключана, што трэнеру будзе дазволена дапрацаваць да канца гэтага адборачнага цыклу.

Паводле слоў В.Стральцова, беларуская каманда ў адсутнасць траўміраванага Аляксандра Хацкевіча і Уладзіміра Шунейкі, які прапускаў матч з-за другога папярэджання, "прайграла цэнтральную зону", што "значна ўскладніла сітуацыю".

Пасля заканчэння матчу Э.Малафееў заявіў футбалістам, што "так гуляць нельга" і яму "сорамна за такую гульню", паведаміў В.Стральцоў. У перапынку, пры ліку 0:1, галоўны трэнер заклікаў узмацніць гульню, гуляць больш шчыльна ў цэнтры поля, але "гэтага не здарылася". Футбалісты рабілі памылкі, на якія "не маюць права гульцы ўзроўню зборнай", зазначыў В.Стральцоў.

Трэнер лічыць, што, нягледзячы на самае буйное ў 10-гадовай гісторыі паражэнне, у зборнай ёсць перспектыва: "Паступова ідзе амаладжэнне складу. Патрэбны час, і калі сёння разагнаць каманду, гэта будзе няправільна".

Галоўны трэнер аўстрыйскай зборнай Ханс Кранкль сказаў журналістам, што гульня адпавядала яго "густу". "Я ганаруся сваёй камандай. Яна паказала цвёрдасць характару, якая заўсёды была ўласцівая маім хлопцам", — заявіў Х.Кранкль.

**Руслан БАЦЯНКОЎ.**



ДЗЯКУЙ!

## Сацыял-дэмакраты — за «Народную волю»

Падзеі апошняга часу паставілі беларускую дэмакратычную прэсу на мяжу амаль поўнага вынішчэння. Усім зразумела, якое значэнне маюць незалежныя СМІ і альтэрнатыўныя крыніцы распаўсюджвання інфармацыі ва ўмовах існуючага ў Беларусі рэжыму.

У гэтай сітуацыі Прэзідыум выканаўчага бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) звярнуўся да сваіх партыйных арганізацый, усіх сяброў партыі, прыхільнікаў дэмакратыі і незалежнасці з заклікам **падпісацца на газету "Народная воля"**, прыцягнуць да гэтай важнай справы сяброў, знаёмых, суседзяў. "Тым самым, — гаворыцца ў звароце, — мы разам праявім салідарнасць з адзінай у Беларусі штодзённай незалежнай рэспубліканскай грамадска-палітычнай газетай і на справе падтрымаем свабоду слова ў нашай краіне".

**Іван КОРЗУН.**

**Ад рэдакцыі.**

*Прыемна, што Прэзідыум выканаўчага бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) выступіў з такой ініцыятывай. Спадзяемся, што і іншыя партыі прапануюць сваім сябрам падтрымаць "Народную волю" і наогул арганізаваць масавую кампанію па актывізацыі падпіскі на другую палову 2003 года.*

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

## Як пры Сталіне...

*У выніку канфлікту з мясцовай адміністрацыяй працу страціў старшыня Гродзенскага абласнога таварыства імя братоў Каліноўскіх Анатоль Валюк. На працягу апошніх гадоў Валюк працаваў настаўнікам у Свіслацкай спартыўнай школе. Раней ў яго былі праблемы з кіраўніцтвам раённага аддзела адукацыі, але сапраўдны канфлікт разгарэўся, калі ён прыняў рашэнне аб удзеле ў выбарах у Свіслацкі райсавет.*

Яго канкурэнтам на выбарах быў галоўны ўрач Свіслацкага ТМО Ілля Турко. Старшынём участковай камісіі быў дырэктар школы, дзе працаваў Анатоль Валюк. Пасля выбараў, на якіх перамог узгаданы кандыдат "ад улады", дырэктар школы пачаў рабіць захады, каб праблемны настаўнік звольніўся "па ўласным жаданні". "Калі гэта не атрымалася, дырэктар абвінаваціў мяне ў тым, што я нібыта нецвярозы прыйшоў на працу", — гаворыць Валюк. На медыцынскі агляд дырэктар Кісялеўскі накіраваў Валюка да яго нядаўняга канкурэнта.

Анатоль Валюк абскардзіў звальненне ў Свіслацкім раённым судзе, але першая інстанцыя прыняла бок раённага аддзела адукацыі. "Атрымалася, як пры Сталіне: нехта напісаў паперку, нехта яе падпісаў, а чалавек страціў працу", — гаворыць Валюк. Дарэчы Свіслач — адзіны горад у Беларусі, дзе ёсць помнік Іосіфу Сталіну. Менавіта Валюк быў адным з тых мясцовых жыхароў, якія актыўна пратэставалі супраць усталявання гэтага помніка. Цяпер Анатоль Валюк збіраецца шукаць справядлівасці ў судзе Гродзенскай вобласці. У Гродне помніка Сталіну пакуль што няма. Ці дапаможа гэта правінцыяльнаму настаўніку знайсці праўду?

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## У Барысаве знайшлі мяшок з порахам

*У падвале аднаго з дамоў па вуліцы Гагарына ў Барысаве будаўнікі, якія праводзілі рамонтныя работы, знайшлі 13 чэрвеня вялікі мяшок з порахам ад танкавага снарада.*

Па іх выкліку на месца небяспечнай знаходкі прыбылі спецыялісты мясцовай часці інжынерных войскаў на чале з лейтэнантам Дзмітрыем Клепчуком. Яны старанна абследавалі падвал, але іншых выбуховых рэчываў або лёгкаўзгаральных прадметаў не знайшлі.

Каменціруючы гэты факт па просьбе БелаПАН, кіраўнік прэс-цэнтра штаба Паўночна-Заходняга аператыўнага камандавання Андрэй Папоў зазначыў, што яго такога кшталту знаходкі не здзіўляюць. Порах, упэўнены ён, мог прынесці нехта з жыльцоў дома з мэтай наступнага яго перапродажу.

На жаль, прага лёгкага заробку падштурхоўвае людзей на сур'ёзную рызыку, калі яны тайком ад аховы пранікаюць на тэрыторыю мясцовых палігонаў у пошуках неразарваных снарадаў, затым разбіраюць іх на патрэбныя пакупніку дэталі.

Такія снарады ваенныя абавязаны збіраць і вывозіць на спецыяльныя склады, але, мяркуючы па ўсім, робяць яны гэта неахайна, падкрэсліў А.Папоў. І калі праблема, як пацвярджае свежы выпадак, існуе, штабам камандавання будуць прыняты дадатковыя захады, запэўніў кіраўнік прэс-цэнтра.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

У АПОШНЮЮ ХВІЛІНУ



## Міністр расстаўляе кропкі...

13 чэрвеня на старонках "Народнай волі" быў надрукаваны ліст бацькоў навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа міністру адукацыі П.І.Брыгадзіну.

І вось учора, калі нумар газеты быў падрыхтаваны да друку, у рэдакцыю паступіла інфармацыя: міністр Пётр Іванавіч Брыгадзін прыбыў у ліцэй, каб канчаткова вырашыць канфліктную сітуацыю.

Аб выніках перамоў — у наступным нумары.

**Ул.інф.**

**Субота — лепшы дзень для афармлення падпіскі на «Народную волю». Вас чакаюць у аддзяленнях сувязі, пунктах «Белсаюздруку».**

**Да заканчэння падпіскі — 9 дзён. Не спазніцеся!**

*Усе на барацьбу з каларадскім жуком! (Вёска Васілевічы Светлагорскага раёна, чэрвень 2003 г.)*

**Фота IREX/ProMedia.**

ПУЛЬС

## Аб'ём банкаўскіх укладаў насельніцтва ў беларускіх рублях наблізіўся да трыльёна рублёў

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Нацыянальнага банка Міхаіл Жураловіч, з пачатку года рублёвыя ўклады фізічных асоб узраслі больш як на 296 млрд. рублёў, або на 44,4 працэнта. У маі ўклады насельніцтва ўзраслі на 6,7 працэнта і на 1 чэрвеня склалі 963 млрд. 21,9 млн. рублёў.

Дэпазіты грамадзян у замежнай валюце з пачатку года ўзраслі амаль на 35 млн. долараў, або на 8,9 працэнта. У маі яны павялічыліся на 10,6 млн. долараў, або на 2,6 працэнта, і склалі на 1 чэрвеня 425,2 млн. долараў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА.**

## На радзіме Тадэвуша Касцюшкі археолагі знайшлі падмурак і падвалы гістарычнага будынка

Падчас раскопак на радзіме Тадэвуша Касцюшкі ў былым урочышчы Мерачоўшчына (зараз Івацэвіцкі раён) археолагі на чале з кандыдатам гістарычных навук Валянцінам Собалем знайшлі падмурак і падвалы гістарычнага будынка XVII—XX стагоддзяў.

Археалагічныя раскопкі — гэта першы этап у справе аднаўлення прысядзібнага дома і стварэння ў ім мемарыяльнага музея славутага земляка. Як раней паведамляў БелаПАН, Брэсцкі аблвыканкам прыняў рашэнне аб аднаўленні сядзібы Тадэвуша Касцюшкі, вядомага палітычнага і ваеннага дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, ганаровага грамадзяніна Францыі, нацыянальнага героя ЗША і Польшчы.

Пасля рэалізацыі гэтага праекта, разлічанага на 2003—2005 гады, мяркуецца стварыць гісторыка-культурнае аб'яднанне "Косаўскі замак" для разгортвання работ па зборы сродкаў на рэстаўрацыю Косаўскага палаца, які быў пабудаваны Пуслоўскімі непадалёку ад сядзібы Касцюшкі, і стварэнне ў ім на працягу 2005—2012 гадоў турысцка-гатэльнага комплексу.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Чацвёра рабочых пацярпелі падчас выбуху

Трагедыя адбылася 12 чэрвеня а першай гадзіне дня на тэрыторыі вузлавой радыётрансляцыйнай станцыі ў вёсцы Чыжоўка. Рабочыя аб'яднання "Рэчыцаміжрайгаз" праводзілі ачыстку адной з дзвюх устаноўленых ёмістасцей, прызначаных для газазабеспячэння 12-кватэрнага жылога дома.

Унутры ёмістасці аб'ёмам 2,5 кубаметра знаходзіўся 25-гадовы слесар. Як мяркуецца, ад іскры ліхтара, якім ён свяціў, адбыўся выбух рэштак газа-паветранай сумесі, у выніку якога пацярпеў гэты рабочы, яшчэ два слесары і вадзіцель, што стаялі побач.

Усе чацвёра атрымалі апёкі і былі дастаўленыя ў раённую бальніцу. Слесар, які знаходзіўся ў эпіцэнтры выбуху, атрымаў апёкі спіны і грудзей, яго калегі — апёкі канечнасцей і твару. Стан двух слесараў і вадзіцеля характарызуецца як крайне цяжкі, яны змешчаныя ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы. У траўматалагічнае аддзяленне змешчаны 35-гадовы слесар — атрыманыя ім траўмы і апёкі аказаліся менш сур'ёзнымі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

УНИКАЛЬНЫЙ ПРОЕКТ

# Заячья Поляна и ее окрестности

*Под Логойском начинается строительство крупного горнолыжного комплекса. В связи с этим Александр Лукашенко с удовлетворением отметил, что отдых, ранее доступный только избранным, теперь станет доступным каждому. Так ли это?*

Горнолыжные трассы и сопутствующая инфраструктура разместятся в живописной местности, которую население района прозвало Заячьей Поляной. В день нашего приезда на территории будущего курорта наблюдалось большое скопление автомашин. Две из них были с министерскими номерами, что, на наш взгляд, свидетельствовало об особом отношении властей к строящемуся объекту.

В добротно сколоченном вагончике шла планерка, которую вел **Юрий Александрович ЧИЖ — генеральный директор фирмы "Трайпл"**, заказчик строительства горнолыжного комплекса. После планерки Юрий Александрович любезно согласился ответить на несколько вопросов.

**— Юрий Александрович, сколько фирма "Трайпл" собирается вложить в этот проект?**

— На первом этапе — в пределах трех миллионов долларов.

**— Вы уверены, что они окупятся?**

— Вкладывая деньги, мы рассчитываем на возврат наших инвестиций. Мы хотим создать проект, который будет нести не только спортивную нагрузку, но и развлекательную. Он должен включать моменты нашей истории, этнографии, там должны быть произведения искусства... Вот почему сегодня продолжается творческий поиск, мы выбираем концепцию, стилистику. У нас очень жесткие сроки, параллельно идет и проектирование, а срок, к которому все нужно сдать, — 1 декабря.

**— В какую сумму обойдется строительство курорта?**

— Пока точно не скажу, но, по грубым подсчетам, в 10—12 миллионов долларов.

**— На какую клиентуру Вы рассчитываете?**

— В Чехию, в Австрию ездит много наших туристов. Здесь мы Альпы, конечно же, не построим и такой спектр услуг, как на зарубежных курортах, не создадим, но для начинающих будут созданы хорошие условия, и люди смогут приехать сюда развлечься в выходные дни. Будет трасса, будут ролики. Рядом хотим разместить ферму — разводить лошадей. Оборудуем поле для гольфа. Так что люди смогут отдыхать здесь и летом. Курорт будет строиться года два-три. Создадим хороший общепит, будут выкопаны два озера. Мы не собираемся уничтожать зелень, а хотим облагородить то, что есть, приумножить ландшафтные возможности.

**— Вы рассчитываете на приток туристов из-за рубежа?**

— Естественно! Рядом с нами Литва, Латвия, жители которых ездят отдыхать неизвестно куда. А сколько нашей публики отправляется на выходные тратить деньги в тот же Вильнюс! А теперь у них будет возможность делать это под Минском.

**— То есть курорт даст приток денег в Логойский район?**

— Прежде всего он поможет сохранить свои внутренние инвестиции, потому что люди, которые едут покататься в горы, тратят на это не одну тысячу долларов. А теперь эти деньги будут оставаться здесь. Плюс будет привлечена прослойка населения, которой не по карману отдых за рубежом. Мы сделаем этим людям более дешевые предложения.

**— Какова будет разница в стоимости отдыха у нас и, скажем, в Чехии?**

— Думаю, отдых у нас будет раза в два дешевле. Но вы прекрасно понимаете, что цена должна обеспечивать окупаемость проекта.

**— Ну сколько, скажем, будет здесь стоить двухнедельный отдых?**

— А две недели здесь никто отдыхать не будет, курорт строится больше с расчетом на выходные дни.

**— Хорошо, в какую сумму обойдутся два дня?**

— Человек должен планировать, что если воспользоваться всем спектром услуг, то долларов 50 в день ему оставлять здесь придется. Но для студентов и детишек мы будем делать значительные скидки, а может быть, даже разрешать на каких-то трассах кататься бесплатно.

**— Австрийцы должны были строить?**

— Они тут долго голову морочили, но до сути так и не дошли.

**— А отечественные инвесторы могут в этот проект деньги вкладывать?**

— Мы рассчитываем в первую очередь на свои силы и возможности. А для других пара горок в Беларуси всегда найдется, хотят конкурировать — ради Бога!

Поскольку будущий курорт предназначается прежде всего для отдыха в выходные дни, то, согласно логике, основными его посетителями должны стать жители Минщины. Мы попытались выяснить, как к этой радужной перспективе относится население Логойска. Из десяти опрошенных граждан, разных по возрасту и социальному положению, только двое выразили к строительству абсолютное равнодушие, остальные горячо его одобрили. Двое пенсионеров, не знакомых с будущими расценками, предположили даже, что смогут там отдыхать.

Основные надежды жители Логойска связывают не с отдыхом, а с появлением новых рабочих мест: в городе безработица, завод "Эпос", по их словам, "дышит на ладан", устроиться на работу некуда, а бизнесу развернуться не дают. Ну и, естественно, предполагается, что приток денег в местный бюджет поможет благоустроить город.

Сельчане к появлению курорта относятся лояльно, но более сдержанно, поскольку особой практической пользы от этого для себя не ожидают. В деревне Зазерье, что входит в колхоз "8 Марта", механизатор Сергей Шушкевич с коллегой Анатолием чинили трактор. Они сообщили, что на ремонте зарабатывают по 30 тысяч рублей в месяц, а работая на поле, — по 50—70, на эти деньги на лыжах или роликах не очень-то покатаешься.

А наш приезд на центральную усадьбу когда-то очень сильного экономического колхоза им.Ленина совпал со знаменательным событием: колхозникам выплатили по десять тысяч рублей в счет зарплаты за январь. В связи с этим продавщица местного магазина Клавдия ожидала увеличения товарооборота, поскольку, по ее словам, самым ходовым товаром является хлеб, который народ покупает на деньги от собранных бутылок. Да иногда пенсионеры позволяют себе роскошь приобрести пару сосисок для внучат...

Некоторые здешние пенсионеры, поизносив гардероб, щеголяют в кедах и спортивных костюмах, оставшихся с советских времен. Они очень ругают начальство и считают, что его, снизу до самого верха, необходимо срочно менять. Колхозники рассказали, что от двухтысячного свиного поголовья и когда-то огромного дойного стада в хозяйстве почти ничего не осталось, доярки уволились, и уцелевших коров сейчас доят подростки. Но и это, видимо, ненадолго, потому что базовую школу из-за малого числа учеников собираются закрыть, а детей будут возить на занятия в Логойск.

Ситуация в колхозе им.Ленина типична для всего Логойского района, а Логойский район мало чем отличается от всех остальных. Так что хотя курорт — дело хорошее, но затевается он явно не для рядовых белорусов. Найдутся, конечно, состоятельные люди, которые захотят и смогут наведываться на Заячью Поляну, но вряд ли оставленные ими там деньги серьезно повлияют на экономику района или области. Наивно надеяться и на то, что появление курорта в полной мере решит проблему безработицы, особенно если отнести к тем, кто нуждается в трудоустройстве, колхозников, работающих за бесплатно.

По утверждению экономистов, горнолыжные курорты во всем мире строятся прежде всего в расчете на иностранных туристов, а не на местное население, даже если оно, в отличие от нашего, живет в довольстве и благополучии. Но вряд ли бизнесмен из Литвы предпочтет Заячью Поляну польским Закопанам. А летний отдых он даже у себя дома может провести так, как нам и не снилось. Да и вообще трудно ожидать притока иностранных туристов в нашу давно уже изолированную от внешнего мира страну. Ведь в Вильнюс белорусы едут не столько для того, чтобы потратить там деньги, сколько в надежде соприкоснуться с цивилизованным, совершенно отличным от нашего миром.

Так для кого же все-таки строится курорт на Заячьей Поляне? Если он рассчитан на будущее, то к чему такая спешка? Не разумнее ли было бы вначале заняться решением самых насущных проблем, которых у нас — невпроворот? Но это, понятно, вопрос не к генеральному директору фирмы "Трайпл". Его нужно лишь поблагодарить — на его счету немало уникальных проектов, и вот еще один — строительство крупного горнолыжного комплекса. Можно не сомневаться, Юрий Александрович Чиж своего добьется.

**Анна АРТЮШКЕВИЧ.**

## Расія адвяргае беларускі варыянт фарміравання адзінага эмісійнага цэнтра на 2008 год, але свайго не прапаноўвае

*Пра гэта падчас пасяджэння "круглага стала" па праблемах увядзення адзінай валюты, які прайшоў у Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі, паведаміў першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Павел Калаўр.*

"Мы бачым будучае адзінага эмісійнага цэнтра ў выглядзе сістэмы цэнтральных банкаў на чале з наднацыянальным органам — міжбанкаўскім валютным саветам як органам кіравання", — сказаў ён. Такая структура была прапанавана невыпадкова. "Мы зыходзілі з таго, што, улічваючы спецыфіку манетарнага саюза Беларусі і Расіі і каб пазбегнуць непатрэбных выдаткаў, прапаноўваць наднацыянальны паўнацэнны цэнтральны банк накшталт еўрапейскага цэнтральнага банка было б дачасна. Мы разглядалі і разглядаем магчымасць стварэння паўнацэннага наднацыянальнага цэнтральнага банка ў выпадку, калі да саюза Беларусі і Расіі будуць далучацца іншыя дзяржавы".

На жаль, як зазначыў П.Калаўр, беларуская прапанова не знайшла падтрымкі з боку расійскага ўрада і Цэнтрабанка Расійскай Федэрацыі. "І цяпер мы не маем нейкіх афіцыйных прапаноў па адзіным эмісійным цэнтры на 2008 год ад расійскага боку", — сказаў банкір.

Сітуацыя, паводле яго слоў, у перамоўным працэсе цяпер наступная: "Мы ведаем толькі адно, што расійскі бок не разглядае неабходнасць стварэння паўнацэннага наднацыянальнага цэнтральнага банка. Таму хутчэй за ўсё пошук рашэння будзе ляжаць у плоскасці паміж схемай, прапанаванай беларускім бокам, і той схемай, што прапанавана на 2005 год. Улічваючы такія рознагалоссі, застаецца нявыкананым пункт Плана сумесных дзеянняў урадаў, Цэнтральнага банка РФ і Нацыянальнага банка РБ у частцы таго, што бакі не ўнеслі прапановы па гэтай праблеме ў праект Канстытуцыйнага акта".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## ДАІ Мінскай вобласці праводзіць аперацыю «Хуткасць»

Аперацыю "Хуткасць", накіраваную на папярэджванне дарожна-транспартных здарэнняў, праводзіць з 12 па 22 чэрвеня на тэрыторыі Мінскай вобласці Дзяржаўтаінспекцыя УУС Мінаблвыканкама.

Для правядзення мерапрыемства прыцягнута максімальная колькасць асабовага складу Дзяржаўтаінспекцыі і спецыяльных тэхнічных сродкаў. За перыяд правядзення аперацыі супрацоўнікі ДАІ правядуць абследаванне месцаў найбольшай канцэнтрацыі дарожна-транспартных здарэнняў. Гэтыя аварыйныя ўчасткі будуць абсталяваныя дарожнымі знакамі з абмежаваннем хуткасных рэжымаў.

Створаныя спецыялізаваныя групы па кантролі за хуткаснымі рэжымамі будуць ажыццяўляць нагляд за дарожным рухам — выяўляць і спыняць выпадкі перавышэння вадзіцелямі ўстаноўленай хуткасці руху. Да парушальнікаў будуць прымяняцца жорсткія меры адміністрацыйнага ўздзеяння згодна з законам.

## Знайшлі забойцаў праз чатыры гады

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку МУС, УУС Гомельскага аблвыканкама, Чачэрскага і Жлобінскага РАУС устанавілі асоб, датычных да забойства ў кастрычніку 1999 года жыхара Жлобіна.

Мужчына знаходзіўся ў вышуку як без вестак зніклы з 21 кастрычніка 1999 года. Папярэдне ўстаноўлена, што загінуўшага 19 верасня з мэтай завалодання аўтамашынай "Аўдзі" з газа-дробавага пісталета забіў непрацуючы жыхар горада Мінска, які з дапамогай сужыцельніцы мінчанкі і двух жыхароў горада Чачэрска вывез труп у лес і закапаў. Аўтамашыну разабралі, а кузаў выкінулі ў раку Сож. Падчас правядзення вобыску ў службовым гаражы аднаго з падазроных канфіскаваныя запчасткі ад згаданай аўтамашыны, а ў іншага падазронага канфіскаваны газа-дробавы пісталет.

## Загінуў падлетак, які кіраваў транспартным сродкам з дазволу маці

Трагедыя адбылася ўдзень 12 чэрвеня паблізу ад вёскі Шамятоўка Кобрынскага раёна.

13-гадовы падлетак, які кіраваў аўтамашынай "Форд" з дазволу маці, з'ехаў у кювет, перакуліўся і ад атрыманых цялесных пашкоджанняў пры дастаўцы ў бальніцу памёр.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# Па камандзе «Смірна!»

*Зусім нядаўна, выступаючы перад вайскоўцамі, наш самы галоўны начальнік з характэрнай для яго шчырасцю прызнаўся, што найбольш любіць людзей у пагонах. Якраз з імі яму найлепш працуецца: яны і дысцыплінаваныя, і добра арганізаваныя, і з высокім пачуццём адказнасці. Таму так багата ў ягоным найбліжэйшым атачэнні былых і сённяшніх генералаў і палкоўнікаў...*

**Генадзь БУРАЎКІН**

Што ж, зразумець кіраўніка краіны можна — у дачыненнях з вайскоўцамі ўсё даўно вызначана адпаведнымі статутнымі патрабаваннямі, якія на працягу доўгіх гадоў амаль не змяняюцца і дзе ледзь не на кожны выпадак жыцця сфармулявана кароткая, жорсткая каманда: "Смірна!", "Вольна!", "Кругом!", "На плячо!" А паспрабуй не выканай загад камандзіра, пакажы сваю слабасць — кара надыдзе непазбежна і бязлітасна. Зноў жа — у адпаведнасці са статутам...

Гэта не тое, што мець справу з так званымі цывільнымі (ды яшчэ ў капелюшах ці акулярах). Ты ім, бачыш, растлумач, чаму, на якой падставе прынята рашэнне, падкажы шляхі выканання, выслухай іхнюю асабістую думку. На ўсё гэта патрэбныя і не абы якая дасведчанасць, і вытрымка, і давер, і павага да іх, і проста час, якога заўсёды не хапае. Куды зручней, як на пляцу, гучным голасам аддаць каманду і запатрабаваць хуткіх дзеянняў і неадкладных вынікаў, без лішніх разумных размоў і спасылак на аб'ектыўныя цяжкасці...

Падобная сістэма кіравання не з'яўляецца нейкім адкрыццём. Яна добра вядома і не раз шырока прымянялася ў айчыннай гісторыі. Калісьці яна нават давала плён, калі гаворка ішла пра экстрэмальныя сітуацыі ці трагічныя падзеі. Але, як з усёй відавочнасцю паказала сусветная практыка, сістэма гэтая непрыдатная для доўгачасовага ўжывання, бо заўсёды прыводзіць да застою ў эканоміцы і падаўленні дэмакратыі...

Я не маю нічога супраць многіх вядомых у Беларусі мужчын з вялікі зоркамі на плячах. Я нават згодны на нейкі час змірыцца з тым, што іхнія пенсіі пакідаюць далёка ззаду пенсіі міністраў і акадэмікаў, дыпламатаў і канструктараў. Жыццё ў іх сапраўды было нялёгкім і нават небяспечным, поўнай мерай ім (ва ўсялякім разе — вельмі многім) перапала і смяротнай рызыкі, і бытавой неўладкаванасці. І няхай яны на здароўе карыстаюцца сумленна заробленымі прывілеямі і шчырай павагай і любоўю найвышэйшых дзяржаўных асоб. Вось толькі ў тое, што якраз сярод іх у нас маецца найбольш мудрых эканамістаў і глыбокіх палітыкаў, я не магу ніяк паверыць. Не іхняя віна, што лёс выбраў іх менавіта армейскую службовую дарогу, сілавую, як модна цяпер казаць, спецыялізацыю. Але...

Думаю, не выпадкова дырэктар буйнога завода ці вялікага саўгаса пры вырашэнні складаных гаспадарчых праблем перш за ўсё кліча да сябе галоўнага інжынера ці эканаміста, канструктара ці агранома, а не начальніка аховы ці ўчастковага міліцыянера. У кожнага, так бы мовіць, ёсць сваё месца ў "агульным страі" і свой непаўторны прафесійны вопыт. Армейская школа, як гэта ні сумна таму-сяму прызнаваць, не заўсёды гарантуе поспех у дзейнасці, напрамую не звязанай са спецыфічнымі вайсковымі задачамі і строгімі "іерархічнымі" ўзаемадачыненнямі ўнутры каманды.

Падначаленым, вядома, можна заўсёды скамандаваць і "Смірна!", і "Шагам марш!, але як загадаць зрабіць гэта цэнам ці інфляцыі, як прымусіць працаваць па-сучаснаму састарэлае абсталяванне ці маладасведчаных чыноўнікаў?.. Дарэчы, у нас, калі хто яшчэ не забыўся, былі спробы грозна прыкрыкнуць на эканоміку, на цэны і тарыфы, але, акрамя канфузу, нічога вартага ўвагі з гэтага не атрымалася. Жалезнае статутнае правіла "Загады камандзіраў не абмяркоўваюцца, а выконваюцца" ў мірных умовах залішне часта прыводзілі да вельмі дарагіх для народа памылак і засталіся ў гістарычнай памяці то пад азначэннем "культ асобы", то пад назваю "валюнтарызм"...

Мы звыклі чамусьці да самавольства чыноўнікаў і ніяк не можам выбавіцца з гнятлівай атмасферы надзвычайшчыны. Пачынаецца веснавая сяўба — і пайшлі абавязковыя нарады, селектары, праверкі, а ў Мінскай вобласці дык для кіраўнікоў раёнаў і гаспадарак нават уводзіцца падоўжаны працоўны дзень. Набліжаюцца прыёмныя экзамены ў вышэйшых навучальных установах — і зноў грозныя загады, надзвычайныя камісіі, пагрозы ў адрас яшчэ не выяўленых "зламыснікаў". І галоўнымі кантралёрамі і арбітрамі, як правіла, становяцца генералы, хай сабе і не ў штодзённай вайскай форме.

Ці дае гэта вынік? Магчыма, у нейкіх выпадках і дае, але колькі нервознасці, бязладдзя, а то і страху прыносіць гэта ўсё ў калектывы добрасумленных прафесіяналаў, як падаўляе іхнюю ініцыятыву, як прывучае і ў самай дробязнай справе азірацца на ўсемагутных "наглядчыкаў", у якіх нярэдка няма дакладнага ўяўлення пра сутнасць іхняй новай функцыі!..

Камандныя метады кіравання, апора на сілавікоў, як пацвярджае шматгадовы вопыт самых розных дзяржаў свету, няблага служаць утрыманню ўлады, але не надта спрыяюць дабрабыту людзей і духоўнаму росквіту народа. Можна скамандаваць тысячам, а то і мільёнам грамадзян "Смірна!", але звычайна пасля такой каманды ніхто нікуды не ідзе і нічога не робіць, стаіўшы дыханне, уважліва гледзячы на камандзіра і спалохана чакаючы ягонай новай каманды...

А ўвогуле да генералаў і палкоўнікаў я стаўлюся нядрэнна. Праўда, не да ўсіх...

*("Белорусские новости".)*

НЕОБЫЧНАЯ СИТУАЦИЯ

# «Секретный агент» требует денег...

Во время работы Лилии Ровбо контролером на Лидской обувной фабрике к ней обратился оперуполномоченный уголовного розыска Александр Баборыкин. Он предложил сотрудничество, а попросту говоря, провел вербовку. Женщина сама, без давления со стороны, изъявила желание помогать милиции. Одной из причин тому явилось ограбление квартиры, в результате чего пострадала ее семья. К тому же, как указала в жалобе Лилия, так сложилось, что круг ее знакомых велик — от наркоманов до местных криминальных авторитетов. Связями и знаниями хотела облегчить работу милиции на правоохранительном поприще. Между ней и Лидским ГРОВД было заключено соглашение, по которому первая обязалась содействовать уголовному розыску в раскрытии преступлений, а отдел милиции за успешное раскрытие их — оплачивать "премиальные".

Согласно заключенному соглашению, оплата услуг женщины должна была производиться по факту раскрытия криминальных деяний. Конкретная сумма не оговаривалась, так как зависела от многих факторов — серьезность преступления, вклад осведомителя, а также от того, что укажет в рапорте куратор. Как говорит сама Лилия, используя ее информацию, милиция раскрывала 15—20 преступлений в год. Но, сотрудничая с местными органами шесть лет, Лилия Ровбо не получила ни одной копейки за свою работу. Хотя с 1996 года ей начислялись деньги, но узнала она об этом только в апреле 2002 года, когда в Лидское ГРОВД приехала финансовая проверка. Куратор вызвал свою подопечную и показал папку с ее досье, рапорты, а также поддельные расписки (позже почерковедческая экспертиза доказала их фальшивость) от имени женщины на получение денег.

После этой встречи Ровбо решила отстаивать свои права. Она дошла со своим заявлением до службы собственной безопасности МВД. После проверки пришел ответ, в котором говорилось, что по факту нарушений финансовой дисциплины ряд сотрудников привлечен к дисциплинарной ответственности. Ничего не скажешь: достойный ответ! Мало того, деньги так и не отдали...

Спустя некоторое время Баборыкин пришел домой к Лилии и предложил 50 долларов в качестве оплаты шестилетнего труда. Она согласилась, но попросила написать расписку о том, что эти деньги действительно являются оплатой ее вклада в раскрытие преступлений. Куратор отказался. Через несколько дней Баборыкин снова наведался, но уже вместе со своими начальниками — Рыбаком и Пукиным, предлагая женщине уже 200 тысяч рублей. Но снова отказались давать расписку. Наученная работой в милицейской среде, Ровбо знала, что "подставиться" в такой ситуации легко — деньги могли оказаться ворованными. А иначе почему ей отказывались предоставить документ о получении денег?

Возмущенная несправедливостью, Лилия подала иск в суд, но в возбуждении искового производства ей отказали, мотивируя отказ тем, что Лидский ГРОВД не является юридическим лицом и иск должен рассматриваться по месту нахождения областного УВД. Не согласившись с этим, Ровбо подала частную жалобу. По ее словам, областной суд отменил вышеуказанное определение городского, и процесс все-таки начался.

На предварительной встрече в суде начальник уголовного розыска Жолнерчик (представитель Лидского ГРОВД) пообещал выплатить женщине ее деньги. Но...

Дело осложняется тем, что невозможно установить заработанную ею сумму, так как это нужно считать по секретным рапортам начиная с 1996 года, а УВД не предоставляет этих документов даже по требованию суда. Как говорит Лилия, вместо денег она получает только угрозы. Кем-то была разглашена секретная информация о ее сотрудничестве с милицией, и теперь Ровбо опасается расправы со стороны преступников, которых она когда-то изобличила. Женщина уверена, что это дело рук сотрудников ГРОВД.

С просьбой разобраться в ситуации, вернуть деньги и наказать виновных она обращалась к областному прокурору Литвинову, генпрокурору страны Шейману, неоднократно пыталась попасть на прием к министру МВД, писала даже президенту, но до сих пор со стороны вышеупомянутых государственных мужей никаких действий не последовало.

Видимо, следует признать, что такими действиями сотрудники правоохранительных органов дискредитируют наработанную практику использования платных "секретных агентов" и рискуют снизить имеющийся уровень раскрытия преступлений. Помочь Лилии Ровбо отстоять заработанное по "негласному договору", не противоречащему нашему законодательству, взялись правозащитники РОО "Белорусский Хельсинкский комитет". Пусть свое слово скажет суд.

***

**P.S.** *Когда я работал над этим материалом, мне на глаза попалась схожая по теме статья, опубликованная в газете "Советская Белоруссия". В ней говорится о том, как рядовые граждане содействуют милиции в раскрытии преступлений. Рассказывается и о благодарности сотрудников правоохранительных органов к таким людям — кому руку пожмут, а кому и часы подарят. Вот только Александр Карпов, начальник Управления уголовного розыска УВД Могилевского облисполкома, посетовал на то, что сознательных граждан немного. Он перечислил разные мотивы нежелания содействовать милиции — страх перед расправой со стороны преступников, нежелание "таскаться по милициям" в качестве свидетелей. Но мне кажется, что это не главное. Вся проблема в недоверии к людям в погонах, хотя они, как видно, не очень-то и стремятся исправить эту ситуацию.*

**Максим АНИСЬКО.**

